ДЗІЦЯЧАЯ ГАЗЕТКА

# Несцерка

Будзь разам з намі!

№6(49)

6 чэрвеня 2003 года

*Падпісны індэкс:* **63672**



# Гэта здарылася!



Вось і прышло доўгачаканае лета. Мы можам напісаць пра тое, як звінелі апошнія званкі ў школах краіны, але пра гэта вы даведаліся раней, чым расказалі па тэлебачанні або напісалі ў газетах. У нас ёсць другая добрая навіна — з ліпеня мы выходзім **два разы** на месяц. Таму "Несцерка" аб'яўляе новы **конкурс**. Дапамажыце сваім сябрам, аднакласнікам або проста знаёмым (маленькім і дарослым) **пазнаёміцца** з нашай газетай, а таксама **падпісацца** на яе. Копіі паштовых падпісных квіткоў дашліце на адрас рэдакцыі. Не забудзьце напісаць свой хатні адрас! Хто падпіша больш чалавек ***(не меней пяці) на шэсць месяцаў*** атрымаюць **падарункі**, частку якіх вы бачыце на фотаздымках. Чакаем вашых лістоў да **15 ліпеня**.



*Падпісны індэкс:*

**63672**

Падпісны кошт на 6 месяцаў — ***усяго*** 3 600 рублёў.



**Абяцаем —летам з намі не засумуеце!**

**Вясёлых канікул!**

# ШМАТ "Я" — МАЯ СЯМ'Я



*І гэта яшчэ не ўсе.*

*Аднойчы я ехала ў аўтобусе. Каля мяне сядзела жанчына з дзяўчынкай гадоў пяці. Мая маленькая суседка пералічвала месяцы і ўспамінала, якія святы ёсць у тым ці іншым месяцы. "Чэрвень, — сказала малая і задумалася, — мама, а якое свята ёсць у гэтым месяцы?" Жанчына, не доўга думаючы, адказала: "1 чэрвеня — Дзень абароны дзяцей". Дзяўчынка здзіўлена паглядзела на маці і папрасіла патлумачыць, што гэта за такое свята.*

*Я слухала жанчыну і ўспамінала сваё дзяцінства: мой клас ідзе на канцэрт, пасля праводзяцца нейкія конкурсы і гульні, і традыцыйна "Конкурс малюнкаў на асфальце", дзе я малюю сваё шчаслівае дзяцінства — тата, мама і я, узяўшыся за рукі. Менавіта тады я ўзгадала адну сям'ю, у якой 16 дзяцей адчуваюць сябе шчаслівымі...*

Жылі-былі ў невялічкім горадзе Клічаве, што на Магілёўшчыне, Кундзікавы Сяргей Аляксеевіч і Маргарыта Уладзіміраўна. Дужа яны любілі дзетак, таму было ў іх трое. Аднойчы ўвечары глядзела сям'я тэлевізар. А паказвалі тэлемарафон, які арганізаваў "Дзіцячы Фонд". Такія марафоны заўсёды скіраваныя на збор сродкаў для вырашэння нейкіх праблем. "Дзіцячы Фонд" займаецца, зразумела, дзецьмі, а значыцца і праблемамі дзяцей-сірот. Маргарыта Уладзіміраўна і Сяргей Аляксеевіч не маглі застацца абыякавымі да пачутага і ўбачанага і адразу ж сталі думаць, як дапамагчы бядуючым дзеткам. З таго часу прайшло 13 год. У сям'і Кундзікавых зараз 16 дзяцей. Колькі з іх кроўных, я не ведаю. Мне падалося, што і сама мама Маргарыта ўжо гэтага не ведае. Для яе ўсе дзеці — кроўныя, яна ўсіх іх дужа любіць.

— **Маргарыта Уладзіміраўна, а як у вашай сям'і з'яўляюцца новыя дзеці?**

— Па-рознаму. Надзейку забралі з нашай бальніцы, калі ёй было ўсяго 5 дзён. Валерыя і Мікалая прывезлі з Быхава. Танюша і Міша — кроўныя брацік і сястрычка. Раней яны былі ў розных інтэрнатах. Спачатку да нас трапіла Таня. І так здарылася, што на адпачынку за мяжой яны сустрэліся і жылі нават у адной сям'і. Назад Міша вяртаўся з адной думкай — не разлучацца з роднай сястрой. Як мы маглі адмовіць ім? Дома Міша адразу пачаў раздаваць падарункі. Аказваецца, ён і не сумняваўся ў тым, што будзе жыць разам з намі. А вось Аксана з'явілася "па заказу". Дзяўчынкі папрасілі сятрычку, каб было з кім гуляць. Але іх надзеі не спраўдзіліся. Аксана гуляе з хлопцамі і "вісіць з імі на плоце". Як бачыце, загадзя мы дзяцей не плануем, як атрымаецца.

— **Як жа спраўляецеся з такім сямействам?**

— Было дужа цяжка першыя шэсць год. Мне ўвесь час хацелася спаць,



*Наша галерэя.*

**Працяг на 3 ст.**

*Пачатак на 2 ст.*



*Дзіцячыя фантазіі.*

восем маленькіх дзетак — гэта не жарты. Але варта было пакутаваць гэтыя 6 год, каб вырасціць такіх памочнікаў. У кожнага свае абавязкі па дому. Па кухні ў нас дзяжурства. І, зразумела, дарослыя заўсёды дапамагаюць малодшым ва ўсіх справах.

Зараз самай малодшай — шэсць год, самаму старэйшаму — дваццаць адзін. Хто вучыцца, хто працуе, хто служыць у арміі. Таму цяжка ўсіх адразу пабачыць, толькі ў выхадныя ды святы.

Мае асноўныя абавязкі: паход па крамах, папраўка адзення, дапамога ў падрыхтоўцы ўрокаў. А яшчэ вялікая гаспадарка: карова, бычок, індыкі. Але ж дзеці і муж заўсёды побач.

**— Мне дужа цікава даведацца, колькі прадуктаў ідзе на прыгатаванне, напрыклад, абеду?**

— Калі бульбы, то вядро, круп, дык тры кілаграмы. Адной бутэлькі алею хапае толькі на два дні. Пра цукар і казаць не буду. І, наогул, усе прадукты мы купляем не кілаграмамі, а мяхамі: грэчка, рыс, гарох, пшано. Макарон купляем тры мяхі. І ўсяго гэтага хапае толькі на месяц.

**— А як вы бавіце вольны час?**

— Дужа любім святы. Кожны месяц адзначаем дзень імянінніка. У такія дні мы гатуем шмат чаго смачнага. У госці прыходзяць суседскія дзеці, і разам з імі мы праводзім розныя цікавыя конкурсы і гульні.

У звычайныя дні глядзім тэлевізар (у нас іх тры), гуляем на камп'ютары, чытаем кнігі з нашай вялікай бібліятэкі. Хлопцы займаюцца спортам. Дзяўчынкі любяць вышываць, маляваць, займаюцца бісерапляценнем. Карацей кажучы, усё, як у звычайных сем'ях.



*"Хатні" слонік.*

*Усё, ды не ўсё. Галоўнае адрозненне ў тым, што ў звычайных сем'ях адна пара лыж належыць аднаму, няхай двум дзеткам. А ў сям'і Кундзікавых — адны лыжы на ўсіх, тое ж самае і з канькамі, і санкамі. І незаўсёды справа ў грошах. Іх проста няма ў крамах. А папера, алоўкі, фарбы, ніткі для вышаўкі і іншыя "маленькія" рэчы расходуюцца з "касмічнай" хуткасцю. Вось таму для ўсіх неабыякавых і каму ёсць чым падзяліцца пакідаем адрас. Упэўнены, што нашы чытачы і іх бацькі стануць сябрамі сям'і Кундзікавых.*



*Утульны куточак.*

***213900, Магілёўская вобл., г. Клічаў, вул. Маладзёжная, д.2. Кундзікавым Сяргею Аляксеевічу і Маргарыце Уладзіміраўне.***

**Ірына Каралькова.**

# Нашы вераб'і – самыя вераб'іныя ў свеце



Дзіцячая газета "Несцерка" разам з Грамадскай арганізацыяй "Ахова птушак Беларусі" запрашае чытачоў да ўдзелу ў нацыянальнай кампаніі "Дамавы верабей — птушка 2003 года".

Грамадская арганізацыя "Ахова птушак Беларусі" (АПБ) чацвёрты год запар праводзіць нацыянальную кампанію "Птушка года". Шматлікія віды, шырока распаўсюджаныя на Беларусі, і, на першы погляд, добра вядомыя жыхарам, на самой справе аказваюцца "знаёмымі незнаёмцамі". Птушкі жывуць побач з намі, кожны дзень трапляюць нам на вочы, але не многія з нас могуць распазнаць іх і правільна назваць.

Мэта кампаніі "Птушка года" — прыцягнуць увагу шырокай грамадскасці да гэтых відаў, да іх ролі ў жыцці, да праблемы іх захавання. Пачынаючы з 2000 года, птушкамі года выбіраліся белы бусел, белая трасагузка, івалга.

Птушкай 2003 года стаў адзін з самых распаўсюджаных відаў птушак — дамавы верабей. Цікаўнасць да дамавога вераб'я не выпадковая. За апошняе дзесяцігоддзе, яшчэ шматлікі ў нашай краіне, гэты від птушак пацярпеў катастрафічнае зніжэнне колькасці ў Заходняй Еўропе. А ў Велікабрытаніі, напрыклад, дамавы верабей пад пагрозай поўнага знішчэння.

Гэты конкурс разлічаны больш на падрастаючае пакаленне, у чыіх руках знаходзіцца будучае Беларусі. Узрост удзельнікаў: навучэнцы ад 7 да 17 год. У рамках нацыянальнай кампаніі мы запрашаем вас прыняць удзел у двух конкурсах:



**— Конкурс выяўленчага мастацтва "Дамавы верабей — птушка 2003 года ў творах юных мастакоў".**

**— Конкурс казкі на тэму "Чаму ў вераб'я ..."**

◎ Чаму дамавы верабей сустракаецца толькі ў населеных пунктах, а палявы, як у населеных, так і па-за іх межамі?

◎ Чаму ў дамавога вераб'я самец і самка маюць розную афарбоўку, а ў палявога афарбаваны аднолькава?

◎ Чаму нашы вераб'і ў адрозненні ад сваякоў — ткачыкаў, якія будуюць вялікія каланіяльныя гнёзды, заўсёды жывуць асобна адзін ад другога?

Конкурсы будуць праводзіцца ў 3-х узроставых катэгорыях: 7-10 год, 11-13 год і 14-17 год.

## Патрабаванні да конкурсных прац:

◎ Прымаюцца любыя выявы дамавога вераб'я (малюнак, аплікацыя, вышыўка, скульптура).

◎ Казку пажадана дасылаць у раздрукаваным выглядзе або разборліва напісаную, ці ў электронным варыянце.

◎ Праца павінна мець аўтарскую назву з пазначэннем прозвішча, імя і ўзросту аўтара, яго хатняга адраса.

## Тэрмін падачы творчых работ

Конкурсныя работы прымаюцца да **1 кастрычніка 2003 года** па адрасах:

◎ А/скр 1, Магілёў, 212017, Магілёўскае гарадское аддзяленне грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Беларусі". E-mail: apb_m@tut.by. Дадатковае інфармаванне па тэлефоне ў Магілёве: 8 (0222) 239670.

◎ А/скр 306, Мінск, 220050, грамадская арганізацыя "Ахова птушак Беларусі". E-mail: APB@tut.by, тэл: 8 (017) 2630613.

## Узнагароджванне пераможцаў

Найбольш актыўныя ўдзельнікі і пераможцы конкурсаў будуць узнагароджаныя прызамі і падарункамі.

## Заўвага

Прадстаўленыя работы назад не вяртаюцца. Яны будуць выкарыстаныя на выставах і паказах дзіцячай творчасці. Малюнкі і казкі будуць надрукаваныя ў выданнях грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Беларусі", рэспубліканскіх газетах і часопісах з захаваннем аўтарства. Па выніках пяцігадовага правядзення кампаніі "Птушка года" плануецца выданне зборніка дзіцячых казак, малюнкаў і плакатаў з выявамі птушак.

## УВАГА! КОНКУРС У КОНКУРСЕ!



Усе творчыя працы, якія будуць дасланыя на адрас "Несцеркі" да **1 верасня 2003 года**, атрымаюць двайны шанц!

Па-першае: лепшыя творы будуць надрукаваныя на старонках вашай любімай газеты, а іх аўтары атрымаюць асалоду ад спецыяльных прызоў "Несцеркі".

Па-другое: вам гарантаваны ўдзел у асноўным конкурсе з кампетэнтным журы грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Беларусі".

**БУДЗЬ РАЗАМ З НАМІ І ТЫ АТРЫМАЕШ ДВАЙНЫ ШАНЦ!**

# Я ўжо карэспандэнт!





Наведванне зубнога кабінета, згадзіцеся, не вельмі прыемная справа. Ад аднаго толькі ўспаміну пра гэта некаторым становіцца жахліва. Шматлікія дарослыя і дзеці не наведваюць зубнога ўрача па некалькі год. А гэта няправільна. З-за гэтага многія і пакутуюць ад несцярпімага зубнога болю. А вось тыя, хто часценька наведвае ўрача і выконвае правілы асабістай гігіены, такіх праблемаў амаль не маюць. Такім чынам яны папярэджваюць зубныя захворванні.

У кабінет да зубнога ўрача мяне прывяла маці. Я сама б можа і не пайшла. Але яна сказала, што гэта вельмі важна. І вось я апынулася ў крэсле. Жанчына-доктар абгледзела мае зубы. Потым у нас адбылася цікавая размова наконт таго, што трэба ведаць кожнаму, каб захаваць свае зубы здаровымі. І зараз я хачу падзяліцца набытымі ведамі з чытачамі "Несцеркі". Можа хто-небудзь яшчэ не ведае, што:

## ЗУБЫ ТРЭБА ЧЫСЦІЦЬ



Здаровыя зубы ўпрыгожваюць твар чалавека. Каб захаваць іх менавіта здаровымі, трэба штодзённа зубы чысціць. Перад чысткай зубоў абавязкова вымыйце рукі. Прамыйце праточнай вадой зубную шчотку і нанясіце на яе пасту. Чысціце ўсе дасягальныя паверхні зубоў паступова, пераходзячы з аднаго боку поласці рота да другога. Не забывайце адначасова выконваць шчоткай лёгкі масаж дзёснаў. Чысціць зубы трэба не менш дзвюх хвілін. Акрамя гэтай працэдуры выконвайце і другое правіла асабістай гігіены — паласкаць рот пасля кожнага прыёму ежы. З дапамогай гэтага нескладанага правіла з прамежкаў паміж зубамі выдаляюцца рэшткі ежы, што пазбаўляе поласць рота ад шкодных мікраарганізмаў.

## ЗУБЫ ТРЭБА "БУДАВАЦЬ"



Для нармальнага развіцця зубасківічнай сістэмы, а таксама для поўнай механічнай ачысткі зубоў неабходна ўключыць у свой рацыён цвёрдую сырую агародніну і садавіну. Есці іх лепш пасля абеду і вячэры. Разжоўванне цвёрдай агародніны дае моцнае выдзяленне сліны, што добра ачышчае ад рэштак ежы. Акрамя таго, свежая агародніна і садавіна маюць неабходныя вітаміны, якія дапамагаюць прадухіліць развіццё карыесу.

Ежа павінна быць разнастайнай і мець дастатковую колькасць патрэбных для арганізма чалавека прадуктаў: малако, тварог, мяса, рыба. Менавіта ў іх знаходзяцца такія неабходныя для нас бялкі і мінеральныя солі. А вось колькасць вугляводаў трэба абмяжоўваць. Салодкае ў вялікай колькасці перашкаджае ў любым узросце, таму што можа прывесці да парушэння абмену рэчываў у нашым арганізме. Вынікам гэтага з'яўляецца карыес зубоў. Не менш шкодзяць нам і мучныя вырабы.

## ЗУБЫ ТРЭБА ЛЯЧЫЦЬ!

Пасля прарэзвання малочных зубоў і на працягу ўсяго жыцця чалавека зубы могуць разбурацца. З самага ранняга ўзросту трэба рэгулярна, не радзей двух разоў на год, праходзіць праверку ў стаматолага. Своечасовае лячэнне хворых зубоў папярэджвае іх далейшае псаванне. Пры няправільным становішчы зубоў і ненармальным развіцці сківіц неабходна праводзіць артадантычнае лячэнне. Для выпраўлення няправільнага развіцця сківіц і асобных зубоў прымяняюць розныя па канструкцыі апараты. Яны дапамагаюць ў перабудове касцявых тканяў і нармалізуюць форму і функцыю зубасківічнай сістэмы.

**ПАМЯТАЙЦЕ! ВЫКАНАННЕ ГЭТЫХ ПАРАДАЎ ДАПАМОЖА КОЖНАМУ ЗАХАВАЦЬ ЗУБЫ ЗДАРОВЫМІ І ПРЫГОЖЫМІ!**

***Лячыла зубы Таццяна Камедзька, карэспандэнт газеты "Несцерка", г. Горкі.***




1. Вясенні месяц.
2. Хатняя жывёла.
3. Каза і карова даюць вельмі смачнае і карыснае ... .
4. Птушка-паштальён.
5. Там растуць грыбы і ягады.
6. Маленькая шэранькая дваровая птушка.
7. На ўроках мы пішам у ... .



***Алена Камедзька, г. Горкі.***

# ТОМ



Я раскажу вам пра свайго ката. Яго клічуць Томам. Ён — мой самы лепшы сябра. У вольны час мы гуляем з ім у футбол.

Том сіямскай пароды. Яму чатыры гады. Кот вялікі і тоўсты. У яго блакітныя вочы, маленькі носік і доўгія белыя вусы. Вушы ў ката заўсёды тарчком.

Аднойчы ўсёй сям'ёй мы глядзелі тэлевізар. Раптам чуем, як нехта пагрукаў па дзвярной ручцы. Я падышоў і спытаў: “Хто там?” Ніхто не адказаў. Я запытаўся яшчэ некалькі разоў. Але на тым баку было ціха. Тады я вырашыў адчыніць дзверы. Перада мной стаяў Том. Потым мы яшчэ доўга смяяліся з гэтага выпадку.

Мой Том — самы разумны і прыгожы кот ва ўсім свеце! Я яго вельмі люблю!

***Антон Кабайкоў, г. Горкі.***

# Мурзік

У мяне ёсць кот. Яго клічуць Мурзікам. Кот важыць каля трох кілаграмаў. Поўсць у Мурзіка чорна-белая, вочы блакітныя, а нос нібыта ўціснуты ў пыску.

Кот вельмі любіць бываць на кухні. Калі нехта есці, то ён абавязкова сядзіць побач. Так было і ў той раз. Я еў, а Мурзік круціўся каля мяне. На стале не хапала смятаны. Я адчыніў лядоўню, узяў патрэбны слоік і зачыніў дзверцу. Праз некалькі хвілін з лядоўні пачуўся нейкі стогн. Не разумеючы, што гэта можа быць, я адчыніў дзверку. З вялікімі вачыма, як апараны, адтуль сiганyў мой Мурзік. На імгненне ён спыніўся, пачухаўся і пабег далей. А я потым яшчэ доўга смяяўся з гэтага выпадку.

***Яўген Трапачоў, г. Горкі.***

# Клапатлівая Кацярына

Некалькі год таму жыла ў маёй бабулі ў вёсцы дужа разумная кошка па мянушцы Кацярына. І вось у пачатку траўня ў яе з'явіліся прыгожанькія кацяняткі. Аднойчы сапсавалася надвор'е. Падзьмуў халодны вецер, пайшоў дождж. Няўтульна стала кошцы са сваім сямействам у хлеве. Вось і пачала клапатлівая маці пераносіць кацянят у хату. Яна клала іх каля бабуліных ног і пры гэтым ласкава мурлыкала, зазіраючы ў вочы сваёй гаспадыні. Прыйшлося адвесці ім месца ў куточку побач з печчу. А ў гэты час у квакухі Чарнушкі чакаўся вывадак куранят. Бабуля вырашыла дабавіць ёй яшчэ і інкубатарных. Набыла дзесятак жоўценькіх камячкоў, прынесла дадому, накарміла, напаіла і пасадзіла ў скрыначку, а зверху абвязала марляй. Каб малечы не мерзлі, мы паклалі ім гарачую вадзяную грэлку. Управіўшыся са сваёй гаспадаркай, мы з бабуляй пайшлі ў госці. Як вярнуліся дамоў, убачылі наступнае: марля са скрынкі знятая і ніводнага куранятка не відаць. Тут мы адразу кінуліся шукаць кошку. Я падбегла да Кацярыны, схапіла яе за каўнер і хацела выкінуць з хаты.





І тут з-пад яе пасыпаліся і кацяняты, і кураняты, усе цэлыя і непашкоджаныя. У разгубленасці я апусціла кошку на падлогу. Яна адразу кінулася да кацянят і пачала іх аблізваць. Да Кацярыны падбегла куранятка, а яна лізнула і яго. Малеча не ўтрымалася на кволенькіх ножках і звалілася. Да чаго прыемна было назіраць за гэтым! Паглядзець на такі цуд прыходзілі і суседзі. Хутка з'явіўся вывадак і ў Чарнушкі. І зажылі ў бабулі за печчу дзве такія розныя, але вельмі дружныя сям'і.

***Таццяна Камедзька, г. Горкі.***

# ПАПАЦЕЙ, ГРАМАЦЕЙ!



| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1 | 2 | | | | | | |
| 2 | | 5 | | | | | | |
| 3 | | | | 3 | | 6 | | |
| 4 | | | | 7 | | | | |
| 5 | | | | | | | | |
| 6 | | | | 4 | | | | |

З адзначаных лічбамі літар складзіце слова і прачытайце выказванне.

*Ты* — | | | | | | | |

1. Горад на рацэ Беразіне.
2. Горад, за межамі якога пачынаецца Польшча.
3. Горад, у якім знаходзяцца ўсім знаёмыя вадасховішчы.
4. Сталіца Беларусі.
5. Горад, які стаіць на рацэ Піне.
6. Горад на Беларусі, які носіць імя жанчыны.

***Кацярына Любчанка, г. Чавусы.***

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | Н | | | | | | |
| 2 | | | | | Е | | | | | | |
| 3 | | | | | С | | | | | | |
| 4 | | | | | Ц | | | | | | |
| 5 | | | | | Е | | | | | | |
| 6 | | | | | Р | | | | | | |
| 7 | | | | | К | | | | | | |
| 8 | | | | | А | | | | | | |

Упішыце назвы гарадоў Беларусі.

***Крысціна Дарожкіна, в. Падлужжа, Мсціслаўскі р-н, Магілёўская вобл.***

## УСМІХНЕМСЯ

Маці запытвае ў дачкі:
— Ну, як прайшоў урок музыкі?
— Выдатна, мама! Я так іграла, што настаўніца аж плакала.

***Іван Літвінаў, г. Магілёў.***

Настаўнік на ўроку біялогіі запытвае:
— Якія зубы ў чалавека вырастаюць апошнімі?
— Залатыя, — упэўнена адказвае вучань.

Едзе ў аўтобусе Вовачка. Раптам аўтобус ламаецца. Кіроўца доўга капаецца ў рухавіку, але не можа знайсці прычыну паломкі. Да яго падыходзіць Вовачка і кажа:
— А я ведаю, што зламалася!
— Адыдзі, я сам ведаю! — злуецца кіроўца.
Вовачка ізноў:
— А я ведаю, што зламалася!
Кіроўца:
— Ну, што, што зламалася?!
— Аўтобус!!!

***Рагнеда Купава, г. Мінск.***

— Колькі чалавек у тваім класе, — пацікавілася сястра ў брата.
— Трыццаць адзін разам з настаўніцай.
— Значыць, без настаўніцы будзе трыццаць?
— Не, без настаўніцы ў нашым класе нікога не будзе.

***Кацярына Любчанка, г. Чавусы.***

У санаторыі тры басейны. У адным — халодная вада, у другім — цёплая, а ў трэцім зусім вады няма. Сяргей запытвае ў свайго сябра:
— А каму патрэбен басейн без вады?
— Гэта, напэўна, для тых, хто не ўмее плаваць...

***Міша Шуляк, в. Белая, Драгічынскі р-н, Брэсцкая вобл.***

**Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў №5:**

***Рэбус.*** 1. Гадзіна; 2. Нарач; 3. Уфа; 4. Воля; 5. Зуб; 6. Фасоля; 7. Падрэзаць; 8. Воўк; 9. Якуб Колас; 10. Васілёк; 11. Радзіма; 12. Аналіз 13. Умова; 14. Доля.
***Крыжаванка.*** ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 1. Мустанг; 2. Макака; 3. Майка; 4. Маяк; 5. Май; 6. Мы; 7.М.
ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Масквіч; 2. Музыка; 3. Міска; 4. Муха; 5. Мяч; 6. Мі; 7.М.

# Каравул!!!

**Змяніўся нумар тэлефона рэдакцыі.**

**Наш новы нумар — 8-(02233)-21-999**

Заснавальнік і рэдактар — Ірына Каралькова.

*Кошт газеты ў падпісцы — 600 рублёў на месяц.*

Газета зарэгістравана ў Дзяржкамітэце РБ па друку 14.09.2000 г. **Пасведчанне №1528.**

Газета надрукавана ў абласной друкарні імя Спірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70.
Замова 24. Наклад 1000 асобнікаў. Падпісана да друку 05. 06. 2003г. а 17.00.

***Адрас рэдакцыі:***
213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, вул. Цыялкоўскага, 23
Тэл. 8-(02233)-21-999
E-mail: nescerka@hotbox.ru